*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 12(346) 1 КРАСАВІКА 1998 г.**

## ТБМ высяляюць з сядзібы

ЖРЭА Партызанскага раёна г. Менска ўзбудзіла судовую справу па высяленню ТБМ з сядзібы па адрасу вул. Румянцава, 13 за нявыплату часткі арэнднай платы. Святло было адключана раней.

## Пікет у Серабранцы.

21 сакавіка ў людным месцы, насупраць кірмаша на перакрыжаванні вялікіх вуліц Пляханава і праспекта Ракасоўскага жыхары Менскага мікрараёна "Серабранка" пабачылі вялікі і прыгожы пікет прысвечаны 80-м угодкам абвяшчэння БНР. Заяўку на гэты пікет падалі Сакратарыят ТБМ раённая арганізацыя АГП; Свіслачская рада БНФ. Аднак пад маляўнічымі плакатамі, харугвай ТБМ і бел-чырвона-белымі сцягамі стаялі не толькі сябры вышэйпералічаных арганізацый.

Да іх далучыліся сябры БСДГ і БСДП (НГ), Нацыянальнай партыі і "Маладога Фронту".

З 11 да 14 гадзін жыхары Серабранкі маглі атрымаць бясплатна газеты "Наша слова" і "Рабочы". паставіць свае подпісы за "Хартыю-97" альбо за адстаўку прэзідэнта. Многія бралі для распаўсюджвання ўлёткі з заклікам прыйсці 22 сакавіка на ўрачыстае шэсце і мітынг. Былі і тыя, хто стараўся абразіць удзельнікаў пікета, але колькасць людзей якія выступілі ў падтрымку прыхільнікаў беларускага слова і ідэй "Хартыі-97" была значна большая.

***Алег Трусаў.***

## Абараняць родную мову дазволілі, але на задворках.

У Магілёве за апошнія два гады ў беларускія класы не было прынята ніводнага вучня. Агульная колькасць тых, хто яшчэ навучаецца на роднай мове усяго 243 чалавекі. І гэта пры тым, што ў горадзе навучэнцаў 52 тысячы.

Каб звярнуць увагу на гэткае становішча, сябры "Маладога Фронту" 15 сакавіка правялі пікет пад лозунгамі ў абарону роднай мовы. Заяўкі на гэтую акцыю падаваліся яшчэ з лістапада мінулага года, але адказ быў заўсёды такі: "Нецелесообразно". Сяржуку Гіркіну, які падаваў заяўкі ў гарвыканкам, нейкія асобы спачатку пагражалі, а потым — збілі.

Месца пікета "вертыкаль" перанесла туды, дзе ў нядзелю амаль што нікога няма. Пад час пікетавання чыноўнікі спрабавалі давесці, што лічба 243 не адпавядае рэчаіснасці. Але ж гэтыя звесткі былі ўзятыя з афіцыйнага адказу на заяўку аб пікеце ( № Т-2283). Такім чынам, падзеі вакол пікета ў абарону роднай мовы яскрава высвецілі сапраўдныя (а не дэклараваныя) адносіны "вертыкалі" да беларускай мовы і яе праблемаў.

***Віталь Макаранка***

## Жыве "Беларускі калекцыянер"




У Оршы выйшаў першы ў 1998 годзе нумар газеты "Беларускі калекцыянер". Газета ўтрымоўвае шмат інфармацыі пра цікавыя падзеі і знаходкі, напрыклад, значную цікавасць выклікаюць матэрыялы пра беларускую татарэю, пра грошы Украінскай Народнай Рэспублікі 1918 года, знойдзеныя ў Слоніме і шмат іншага.

**Зміцер Цехановіч**

## Беларускае Слова

Беларускае Слова народжана Вечнасцю.

Гэта ведаюць - адчуваюць не толькі пераборлівыя гурманы прыгожага пісьменства, але і ўсе тыя, хто здольны да спазнання надзвычайнай гожасці і зграбнасці Яго Вялікасці Слова, якое, як вядома, было спачатку.

Беларускае Слова ... Пяшчота і меч, стрыманасць і палымянасць, дасканаласць і геніяльная простасць у некалькіх радках - паэтычных ці празаічных. Бо : Беларускае Слова люляецца Вечнасцю.

А як, часам, хочацца Вечнасці !...

І тады я, звычайны смяротны, бяру ў рукі Кнігу, каб дакрануцца да Спадарыні Вечнасці ў самым рафінаваным яе выглядзе - у выглядзе Беларускага Слова. Бо так хочацца Вечнасці...

Беларускае Слова... "Жывая песня ў мёртвых снягах", "празрыста-сіняе неба над густа-сіняй зямлёй" (Ул.Караткевіч)...

Расхініце Сэрцы!

Настройце струны Душаў на лад Стагоддзяў - былых і наступных. Чуеце?...

Беларускае Слова! Важкае, светлае ў сваёй глыбокасці, шляхетнае.

**Рыгор Барадулін**

## Беларускае слова

***Вялянціну Рабкевічу***

Беларускае слова ад спеву,
Бо спявае ў ім даўніна.
Беларускае слова ад гневу,
Ад Ярылы, ад Перуна.

Беларускае слова ад ласкі-
Сведчаць вусны ды салаўі-
Не наймаліся ні ў падпаскі,
Ні ў падбрэхічы, ні ў халуі.

Беларускае слова ад злосці
Да няпрошаных прыбышоў,
Асалоду п'е з чараў мілосці,
Медавуху духу - з каўшоў.

Беларускае слова ад славы,
Ад ракі, дзе светлае дно.
Госці ўстануць з застольнай лавы,
Як у хату зойдзе яно.

Беларускае слова ад Бога.
Слову нашаму Бог дапамог.
Хто не любіць яго, ад тога
Назаўсёды адвернецца Бог!



**Малюнак Уладзіміра Караткевіча**

## Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Грэе маё сэрца думка! "Наша слова" выходзіць у свет! І сённяшні невялікі наклад газеты - не бяда. У "Нашага слова" - усё наперадзе!

Так, невялікая колькасць падпісчыкаў - гэта слабасць для любой газеты, але затое падпісчыкі "Нашага слова" адносяцца да ліку тых, каго называюць Элітай Краіны, і гэтая Эліта прадстаўляе практычна ўсе рэгіёны Беларусі. Чарга за выкарыстаннем наяўнага патэнцыялу Эліты, сканцэнтраванай вакол "Нашага слова"...

Я бачу "Наша слова" газетай запраўды Беларускага народа - газетай годных, шляхетных людзей, поўных стваральнай сілы і адданай любові да сваёй маці- Беларусі.

"Наша слова" мусіць стаць той цвердзю, дзякуючы якой у няўпэўненага з'яўляецца пэнасць, у заблукалага - мэта, у абяссіленага - крылы.

Газета мусіць прадукаваць жыццядаўныя ідэі, прапаноўваць побач са старымі, новыя, нетрадыцыйныя спосабы пашырэння беларускасці.

Дынамізм, стваральнасць, моцная падтрымка чытачоў прыцягнуць да "Нашага Слова" новых сяброў.

Я ж сёння прапаную адкрыць у газеце новую рубрыку - "Беларускае слова" у якой павінны друкавацца лепшыя здабыткі беларускага прыгожага пісьменства, адабраныя і дасланыя ў рэдакцыю самімі чытачамі.

**Вам кажу!**
**Не нясіце яе, як крыж,**
**У выжыллі сагнутых плеч**
**Не меўшы Хрыстовых сілаў,**
**Беларускасць нясіце, як крылы,**
**Беларускасць нясіце, як меч.**

***Зміцер Цехановіч***

## Шаноўны спадар рэдактар !

**РЭХА**

З'яўляюся даўнім чытачом "Нашага слова", ад самага пачатку заснавання. Як і ўсе нацыянальна свядомыя беларусы, быў моцна засмучаны, калі па вядомых прычынах гэтае цудоўнае выданне перапыніла свой выхад. Цяперашнім уладам гэтая газета не патрэбна, як і наогул, мова гэтае зямлі. "Наша слова" — гэта не проста адна з нямногіх беларускіх газет у Беларусі, гэта — газета-сімвал, напамін усім, што мы беларусы, тут ёсць са сваім родным, адвечным Словам, Словам-Мовай. Таму сумленныя людзі і вітаюць аднаўленне газеты, і трэба неяк ужо старацца, каб "Наша слова" не мела перапынкаў у выданні. Газета, ведаем, выходзіць на грошы людзей-ахвярадаўцаў, таму яе магчымасці абмежаваныя. Колькасцю, накладам, мы тут не возьмем, хай яе чытаюць тыя, хто хоча мець і бачыць "Наша слова" у сваім жыцці, бо балюча глядзець, як газета марнуецца. Падпіска паказала, як злыдні розных масцей не даюць шляху "Нашаму слову", пад рознымі надуманымі прычынамі, у газетных шапіках газеты шмат ды там папросту хаваюць яе далей ад людскіх вачэй, а праз пару дзён хуценька, спісваюць. Падобнае, упэўнены, адбываецца па ўсёй Беларусі, а не толькі ў Вілейцы. Розныя імперскія "набаты" падоўгу красуюцца на відных месцах, і розныя "времени" не забываюць замовіць, ці гэта- не брудная палітыка. Цяпер газету набываю ў шапіку, хаця меў падпіску на першае паўгоддзе.

Нашая пошта абышлася з намі падпісчыкамі, нясумленна, мякка кажучы. Зараз зноў падпісаўся на другі квартал, паглядзім, як, той аддзел сябе павядзе, прынамсі, мы, віляйчане, хто падпісаўся на "Наша слова", будзем ведаць, з каго спытаць. І яшчэ пра сябе: маю ўжо сорак гадоў, але роднае слова люблю з маленства, бо ў бацькоўскай хаце, у вёсцы, у наваколлі чулася чысцейшая беларуская гаворка. Толькі ў школьныя гады, як , дарэчы, і многія, калі не ўсе, быў адлучаны ад роднае мовы. І напрыканцы віншую паважаную рэдакцыю, Рэдакцыйную Раду і чытачоў "Нашага слова" са Святам - Днём 25 сакавіка!

Бывайце здаровы, з павагаю Генрых Даніловіч.

17 сакавіка 1998 г. Вілейка.

### Шаноўная рэдакцыя !

На тле ўсеагульнага плачу пра тое, што "Архіпелаг Беларусь" (В.Акудовіч) мае стацца Атлантыдай, мой допіс можа падацца дысанансам. Але нашая гісторыя вымагае аптымізму. Гістарычная логіка дае надзею і шанец, а існаванне на некаторых выспах "архіпелагу" дзейных вулканаў Беларушчыны сілкуе ўсю беларускую грамаду энэргіяй. Вось адыходзіць зіма, а за ёй прыдзе вясна, што "гартуе нас сваім чарнобыльскім запалам".

Мы не знікнем ! Мы жывём !

Паважаная рэдакцыя, віншую Вас з 80-мі ўгодкамі БНР. Будзьце вулканам, што прадукуе высокаякасную, новую, цікавую Беларушчыну !

***Янка Храпавіцкі, настаўнік матэматыкі.***

## *Мастоўскія сустрэчы*

У музычнай гасцёўні Мастоўскай раённай бібліятэкі сябры ТБМ арганізавалі сустрэчу мясцовых паэтаў і пісьменнікаў з вучнямі старэйшых класаў СШ № 1 горада.

Перад школьнікамі выступілі Ірына Навуменка, Аліна Тарарук, Аляксандр Пудаўкін, Язэп Палубятка. Яны распавялі прысутным пра сябе, прачыталі свае творы, адказалі на шматлікія пытанні. Сустрэча прайшла цікава і павучальна.

# Беларускія СМІ пра беларускую мову

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

**Японцы вывучаюць беларускую мову, а мы адракаемся ?**

... Перад Новым годам мы атрымалі бандэроль. У ёй — песні японскіх дзяцей аб міры, прывітанні і вершы. І галоўнае — віншаванне на беларускай мове ! Вучні школы горада Накацу любяць Беларусь і беларускую мову. Вось іх паштоўка: " З Новым годам і Калядамі ! Жадаем міру і ўсяго добрага ! Каб ва ўсім свеце і Беларусі не было войнаў.

*Валерый Бысаў*
*"Народная воля 14.03.98г.*

***Але камусьці гэта трэба рабіць***

*... У дзяржаве, якая недаацэньвае нацыянальную ідэю, а часам і грэбуе ёю, бессэнсоўна працаваць у нацыянальным тэатры. Бессэнсоўна — калі скручваюцца, сціскаюцца ўсе нацыянальныя праграмы...*

З інтэрв'ю Мікалая Пінігіна
ЛІМ 13.03.98г.

Хочам мы таго ці не, але калі дзіця, пачынаючы з дашкольнай і канчаючы сярэдняй спецыяльнай ці вышэйшай навучальнай установай, вучыць на рускай і ў адпаведнасці з апошняй яшчэ і выхоўваць на рускіх духоўных каштоўнасцях, яно, як бы мы яго не пераконвалі будзе глядзець на беларускую культуру і мову як на непатрэбшчыну, а то і проста чужаземшчыну. Яго ніякімі ўгаворамі, заклікамі быць патрыётам, любіць дарагую Бацькаўшчыну не схіліш размаўляць па-беларуску, чытаць на роднай мове літаратуру, хадзіць у беларускія тэатры... Вось таму, каб у суверэннай Рэспубліцы Беларусь яе спрадвечную прыродную культуру зрабіць пануючай, любімай усім народам, трэба карэнным чынам змяніць дзяржаўную палітыку найперш у галіне мовы. Асяродкам усялякай культуры з'яўляецца мова.

Леанід Лыч
"Народная воля" 10.03.98г.

***Замест беларускай мовы — расейскі мат ?***

*... А што ў Беларусі ? Нават няма і думак аб дзяржаўнай бюджэтнай праграме абароны беларускай мовы, але кіраўніцтва рэспублікі на ўвесь свет ганьбіць яе, робіць усё, **каб зняважыць мову, назаўжды замяніць "великим русским языком" з яго непаможным матам.***

Аляксей Саламонаў
"Народная воля" 17.03.98г.

**Свабода па-руску беларусам не патрэбна.**

Увайсці ў культурную прастору свабоды па-руску азначае для беларусаў у чарговы раз збочыць са шляху цывілізаванага развіцця, у чарговы раз паставіць свой лёс у залежнасці ад непрадказальнага руху аграмадных чалавечых мас розных нацыянальнасцяў і вераванняў на некантралюемай еўра-азіяцкай прасторы.

Сяргей Самасей "Пагоня" 10.03. 98г.

***... Наша дзяржава павінна быць незалежнай, моцнай і заможнай. Дзеля гэтага мы павінны шанаваць у ёй беларускую мову, берагчы рэлігію, традыцыі, гісторыю і культуру.***

"Вяртанне БНР" З. Пазняк
"Навіны" 13.03.98г.

## Чаму я не павіншаваў родных

Прыкрае здарэнне адбылося. Не павіншаваў я сваіх родных з Днём жанчын. І трэба ж такое: усе паштоўкі, што падпісаныя па-беларуску, вярнуліся мне на наступны дзень 4 сакавіка, а па-расейску — пайшлі.

У той жа дзень я звярнуўся да брыгадзіра галоўпаштамта, якая сказала, што гэта проста супадзенне. Уся бяда ў тым, што адрасы паштовак я запісаў па новай форме. Уласнай рукой яна напісала на адной з іх, дзе трэба: "Отправитель", "Получатель", тое ж я зрабіў на астатніх і ўкінуў у скрынку з надпісам: "Па Беларусі". На гэты раз мінула ўжо тры дні, і 7 сакавіка мае паштоўкі вярнуліся зноў.

На галоўпаштамце мяне прынялі найветлівей, нават за свой кошт вырашылі паслаць маім родным тэлеграмы, ды вось бяда, на вёсцы іх сваечасова не атрымаюць.

Не стаў я напярэдадні свята псаваць ім настрой ды спаганяць матэрыяльныя траты. Няма жадання спаганяць і маральныя. Я ж не нейкі там Ціцянкоў, які адсудзіў у Антончыка 200 млн.рублёў. У мяне суддзя абавязкова запатрабуе расплумачыць, чаму я выставіў суму, скажам, у 1 млн., а не у 999 тыс.рублёў. Суд жа дзяржаўны, суддзя назначаны, а пошта таксама дзяржаўная. Крук круку, як вядома, у вока не дзеўбане. Ёсць у мяне такі досвед судовай цяганіны па выпадку адмовы пошты дастаўляць мне газету "Народная воля". Можна б было і паверыць, што гэта сапраўды "проста супадзенне", каб не адна акалічнасць: ні адзін з супрацоўнікаў галоўпаштамта, з кім мне давялося гутарыць, не валодае дзяржаўнай беларускай мовай. У іх нават надпісы прозвішчаў зроблены толькі па-расейску.

Падмацаваўся мой сумнеў яшчэ і пры перачытванні тэксту адкрытых віншаванняў, а там і аб неўміручасці нашай мовы, што перажывем рускамоўную акупацыю і генацыд, і аб змрочным часе, і аб матэрыяльных цяжкасцях вяскоўцаў на фоне шыкоўных паездак ды мерапрыемстваў дзяржкіраўнікоў і г.д. . Мо таму і адсылалі іх настойліва мне, а я, небарака, не разумею.

***Мікола Лавіцкі. г. Менск.***

# КУЛЬТУРА МОВЫ

Толькі што ў выдавецтве Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы выйшла з друку кніга загадчыка кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства гэтай ВНУ, знанага беларускага навукоўца, доктара філалогіі, прафесара Паўла Сцяцко "Праблемы нормы, культуры мовы" (Гродна, 1998.— 295с.)




У аснове кнігі — апублікаваныя ў беларускіх і міжнародных выданнях шматлікія артыкулы (больш за сто) знакамітага даследчыка, прысвечаныя праблемам адраджэння і натуральнага развіцця нацыянальнай беларускай мовы, нармаванню яе сучаснага варыянту ў галіне фанетыкі і правапісу, марфемікі і словаўтварэння, формаўтварэння і сінтаксісу, а таксама — і ў найбольшай ступені — лексічнага складу.

Кніга створана на падставе адпаведнага спецкурсу, які чытае прафесар П.Сцяцко студэнтам — філолагам вось ужо восьмы год. Адрасуецца кніга студэнтам і выкладчыкам — філолагам. Матэрыялы яе з поспехам будуць скарыстаныя і пры вывучэнні беларускай мовы на неспецыяльных факультэтах ВНУ, а таксама ў ліцэях і гімназіях, педагагічных вучылішчах і ў старэйшых класах агульнаадукацыйнай школы.

Надта неабходная згаданая кніга працаўнікам рэдакцыяў і выдавецтваў, журналістам і пісьменнікам, мовазнаўцам, усім, хто дбае пра чысціню і натуральнасць нацыянальнай беларускай мовы.

Спяшайцеся набыць кнігу, бо наклад выдання невялікі !

*Рэдакцыя ў сваю чаргу паведамляе, што лінгвістычны нарыс прафесара Паўла Сцяцко "З чужой моўнай практыкі", які мы з перапынкамі друкуем у "Нашым слове"ўключае матэрыялы, напісаныя пасля падрыхтоўкі кнігі да друку і з'яўляецца яе арганічным працягам.*

Энтузіясты Беларушчыны.

## Чатыры сяброўкі Валянціны Радзюк

У іх імёны розныя, але сваёй актыўнай грамадзянскай пазіцыяй на ніве Беларушчыны яны, нібы сёстры. Гэта — газеты "Народная воля", якую жыхарка Слуцка Валянціна Іванаўна Радзюк выпісвае з часу выхаду ў свет першага нумара, "Пагоня", "Навіны" (новае выданне "Свабоды") і "Наша слова". Апошнюю выпісала нядаўна, пасля таго, як газета зноў стала выходзіць у свет. Перачытвае жанчына іх ад першай да апошняй старонкі. Сын Андрэй, яму дваццаць два гады, жыве з маці, таксама цікавіцца незалежным друкам. Раздае Валянціна Іванаўна газеты суседзям па лесвічнай пляцоўцы, сяброўкам, а калі праведвае ў вёсцы Казловічы сваіх землякоў, то і там не праміне прапанаваць "Народную волю" ці "Наша слова" зацікаўленым людзям.

Тры гады таму Валянціна Іванаўна выйшла на пенсію. Да гэтага звыш дваццаці гадоў працавала на сельскім будаўнічым камбінаце. Зваршчыцай, фармоўшчыцай. Пенсію вырабіла ўсяго паўтара мільёны рублёў. Нават у гады "застою" старалася на рабоце гаварыць толькі на матчынай мове. З яе нярэдка кпілі, пасмейваліся, а яна заставалася вернай сабе — не забывацца мову, якую палюбіла ў дзяцінстве, калі вучылася ў сельскай школе, чула ад бабулі, маці, бацькі.

Любоў гэту Валянціна Іванаўна пранесла праз усё жыццё. І дзе б не знаходзілася — ў маршрутным гарадскім аўтобусе, у магазіннай чарзе ці на рынку — пры сустрэчы са знаёмымі і нават незнаёмымі людзьмі, размаўляе па-беларуску. Здаралася, ёй чуць за спіной з'едлівыя кліны: "Наверно она бэнээфовка".

— Аднойчы на вуліцы жанчына маіх гадоў, -- успамінае Валянціна Іванаўна, — пытаецца ў мяне: "На каком языке вы гаварыце?" Пагглядзела на яе — не падобная на расейку, наша, слуцкая баба і па абліччы, і па трасяначнай гамонцы.

Ледзь стрымалася, каб не нахаміць ёй. Адказваю, што размаўляю на сваёй роднай мове. То што, думаеце, яна мне адказала? "Не знаю такога языка, не панімаю яго". А колькі яшчэ такіх канчаткова асіміляваных беларусаў у нашым горадзе? Бывае паўдня хаджу па вуліцы, заглядваю ў магазіны, на кірмаш, сяджу на лаўцы з суседкамі па дому — і хоць бы слоўца беларускае пачула. Аж страшна робіцца: думаю, што калі мы усе не апамятаемся, а ўлады ў Менску не прымуць вырашальных захадаў на дзяржаўным узроўні, то мова беларуская праз гадоў дзесяць-дваццаць канчаткова вымра. Каб такое не здарылася, я і выпісваю чатыры незалежных газеты, якія, лічу, актыўна адстойваюць годнасць роднай мовы.

Паболей бы нам такіх энтузіястаў Беларушчыны, як Валянціна Радзюк !

***Міхась Тычына. г. Слуцк.***



**Павел Сцяцко**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

(Працяг. Пачатак у NN 5-7)

### *Абедны - а не абедзенны*

Прыметнік ***абедны*** утвораны з выкарыстаннем суфікса ***-н-,*** які далучыўся да асновы ***абед-: абед-н-ы***. Параўн. ***калядны, агародны*** і пад. "Захаплялі сваім харастом бясконцыя лугі, фантастычныя слупы белага дыму ад кастроў, калі ў абедны перапынак рабочыя смажылі на ражэнчыках сала" (Анатоль Іверс. Сум і радасць (Гарадзенскія запісы. Вып.3.Гродна, 1997.С.114).

Форма ***абедзенны***, якую падаюць слоўнікі, нічым не апраўданая. Суфікс ***- енн-*** беларускай мове неўласцівы, яго бачым у словах, пазычаных з расейскае мовы. Дый там ён звычайна далучаецца да ўтваральнае асновы, якая канчаецца збегам зычных з апошнім санорным гукам: *молитвенный, огненный, фирменный, язвенный, казарменный*. У беларускай мове тут маем ***малітоўны, агнёвы, фірмавы, язвавы, казармавы***...

Так што беларускай мове ўласцівыя свае словаўтваральныя заканамернасці: ***перапынак на абед і абедны перапынак; пасляабедная праца*** і пад. Форма *абедзенны*"нагадвае хутчэй (утварэнне ад дзеяслова ***аб'есці***) ***аб'едзены***, чым утварэнне ад назоўніка ***абед.***

### *Заступнік і намеснік.*

Слова ***заступнік,*** як адпаведнік рас. *заместитель* у 20-я, адраджэнскія, гады было асноўным. В.Ластоўскі падае: "***Заместитель - заступнік, намесьнік***" (ПРК(б) С.. С.194). У "Беларуска-расейскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Менск,1926. С.117) чытаем: ***"Заступнік** м. - **заместитель"***. Слова ***намеснік*** аўтары падаюць з наступнай кваліфікацыяй: ***"Намесьнік м. - наместник, заместитель***" (С.184). Сэнс слова ***заступнік*** - "той, хто заступае на пасаду пры адсутнасці першай асобы (начальніка, загадчыка і пад.)". Яму дакладна адпавядае рас. ***заместитель***- "тот, кто замешчает(первое лицо)".

Слова ***наместник*** бытавала і ў расейскай мове, але ад яго, як не надта выразнага зместам, расейская мова адмовілася. Затое яго накінулі беларускай мове (дзеля "зблі-жэння моваў").

"Словарь русского языка" (Т.2.М.,1982.С.371) фіксуе гэтае слова з трыма значэннямі: "***Наместник***, -а, м. I. Устар. Заместитель кого-л., лицо облеченное кем-л. правами, полномочиями. 2. Ист. Должностное лицо в древней Руси, возглавлявшее местное управление. 3. Глава местного управления в Росии в конце 18 - начале 20 вв.; правитель губернии в конце 18 в., в 19 - начале 20 вв. — правитель окраинных областей (Кавказа, Польши), обладавший правами верховной власти от имени главы государства".

Як бачым, у расейскай мове гэтае слова было досыць змястоўным. Але савецкія рэаліі прымусілі адмовіцца ад яго і ўжыць новае ўтварэнне - з прыстаўкаю ***за*** - (і суфіксам ***- тель***): ***заместитель***. А вось каб не знікла яно, накінулі мове народа "окраинных областей".

Між тым, беларускае ***заступнік*** - найбольш адэкватнае рас. ***заместитель***: *заместить (замещать) ->заместитель і заступаць -> заступнік.*

Слова ***заступнік*** уласцівае і ўкраінскай мове, дзе яно мае два значэнні: "Заступник 1) заместитель; заступник прокурора - заместитель прокурора; 2) зашчитник, заступник; книжн. покровитель" (Українсько-російський словник. Київ.1977. С.240). Яно ўтворанае ад дзеяслова ***заступати (временно исполнять чьи-л. обязанности) замешчать*** (Тамсама). Аналагічнае ўтварэнне бачым і ў заход-неславянскіх мовах: чэшск.: ***zastupce***, славацк. ***zastupca***, польск.. ***zastepca*** ды інш.

Наяўнасць гэтых словаў у заходнеславянскіх мовах, відаць, і запалохала ідэалагічных цэнзараў, якія загадалі выкрасліць яго з беларускага слоўніка. Таму пасля сумнавядомай пастановы СНК БССР 1933 года слова заступнік з значэннем "намеснік" ужо нідзе не згадваецца ў акадэмічных беларускіх слоўніках. Яго месца трывала заняло застарэлае расейскае слова, толькі напісанае па-беларуску: *намеснік (наместник).*

Падчас нашага адраджэння, калі былі перавыдадзеныя слоўнікі 20-х адраджэнскіх гадоў, слова ***заступнік*** стала зноў выкарыстоўвацца ў маўленні: "Калі папраўдзе, то намнога болей, чым на пасадзе міністра зямляробства, здолеў зрабіць ён (Смоліч) і як заступнік старшыні Рады Міністраў рэспублікі (Арсень Ліс. Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994.С.207).

Знайшло сваё адлюстраванне слова ***заступнік*** і ў новых тэрміналагічных слоўніках. Так, у "Расейска-беларускім вайсковым слоўніку" С.Судніка і С.Чыслава (Менск,1997. С.63) засведчана: "***заместитель - намеснік, заступнік".***

З разгледжанага відаць, што слова ***заступнік*** мае ўсе падставы для актыўнага выкарыстання і ў пісьмова-кніжных стылях мовы як адпаведнік рас. ***заместитель.***

*(Працяг у наснаступных нумарах)*

## "Наша слова" рэпразантуе:

# Літаратурнае аб'яднанне „Брама"

г.Наваполацк.

Вам кажу!
Не нясіце яе, як крыж,
У выжыллі сагнутых плеч
Не меўшы Хрыстовых сілаў,
Беларускасць нясіце, як крылы,
Беларускасць нясіце, як меч.

*Зміцер Цехановіч*

### *Андрэй Аляксандраў*

* * *

Я меў нахабства
размаўляць па-беларуску
на вуліцы.
Натоўп глядзеў пужліва,
са шкадаваннем,
бо народ наш добры,
сардэчны:
ім шкада вар'ятаў.

Калі пачуў адказ
на нейкай мове
(мне кажуць, што расейскай,
але Пушкін,
напэўна,
у труне пераварнуўся),
Я моўчкі паглядзеў
на гэты шэры, сляпы натоўп,
і слёзы жалю
і шкадавання
засцілі мне вочы —
як і заўжды,
калі гляджу
на мёртвых...

* * *

Гартаю перыёдыкаў старонкі —
Чужая мова... Сэрца мне баліць,
Бо ціхне родных песень голас звонкі
Й не чутна беларускае гамонкі
На старажытнай крывіцкай зямлі.

Ці здолееш прабачыць, край мой родны,
Сваіх сыноў, што выракліся ўжо
Сваёй святое, мілагучнай мовы
І ў чыіх душах іншаземных словаў
Атручанае дрэва прарасло.

Нялёгкі будзе шлях наш да вытокаў,
Але ж дадому мусім мы пайсці,
Каб РОДНЫЯ лясы, палі, аблокі,
Сафію ў Полацку і наш Дняпро шырокі
Любіць на РОДНАЙ мове й берагчы.

Дарма чакаць аднекуль дапамогі,
Усё залежыць ад саміх людзей.
Мы йдзём па мову праз усе трывогі,
Каб зразумеў нас наш нашчадак строгі
І, сцяг наш падхапіўшы, ішоў далей.

* * *

Мы ў саюзнікі клічам ворагаў,
Каб змагацца з самімі сабой.
Зноў заплацім мы вельмі дорага —
Але ж мы не стаім за цаной,
Асабліва, калі пытанне
Стаіць аб змаганні
З сабой.

### *Сяргей Грыбаедаў*

* * *

Чорнае неба, белы снег
Падае, вуліцы засцілаючы.
Цёмныя вокны, мяккі свет
З лямпы ліецца, гады асвятляючы.

Часу пясок, несупынна, нястрымна
Сыплецца з рук, адлятае ў нябыт.
Часам становіцца мне за ўсё крыўдна,
Хочацца біцца і плакаць наўзрыд.

Словы чужыя — агнём апалілі,
Хлос прынеслі у думкі яны.
Дваццаць гадоў мне жыцця адпусцілі...
Як жа мне жыць на адвечнай зямлі?

### *Андрусь Храпавіцкі*

**ДЫЯЛЕКТ**

Я адчуў дыялектам сябе ў мове гэтай краіны,
Ці зьбіральнікам кьветак памёрлых на чорным бульвары вайны,
Бо суседзі мае аранжу памянялі на міны,
А паэзія зьнікла ці сьніць літаргічныя сны.
Я ніколі ў жыцці не жадаў бы стаць аўтаматам
І страляць па натоўпу, кагосьці пазбавіць жыцця.
Столькі часу нашу зямлю тапталі салдаты,
Забівалі самі сябе двубоем з чужога ружжа.
Колькі можна быць побач ці воддаль, і глядзець чыжымі вачыма,
І блюзьнерыць над памяццю й мовай сваёй,
Глядзець на экран тэлевізара і прадказваць навіны...
Я ўсяго дыялектам у краіне чужой.

* * *

Я шукаю зямлю,
Якая шукае мяне,
Сваім маяком і ветрам,
Маланкай далёкай заве.
Я шукаю зямлю,
Якая адна паміж хмар
Зьзяе, як яркае сонца,
Сатканая з мрояў і мар.
Я гляджу ў далячынь
На носе свайго карабля
І, мабыць, на даляглядзе
Ужо ледзь бачна яна.
І калі гэта проста фантом
Прымроіўся ў роспачы мне,
Я веру, што перамога
Прыйдзе у барацьбе.
Адступяць бураны і шквал,
Рассыпяцца сьцены хваль,
Патупяцца стрэлы Зэўса
Аб нашай надзеі мэталь.
Я шукаю зямлю,
Не чужую, а нашу, сваю.
Я даплыву, я дайду,
Няхай хоць маё жыццё
Пройдзе ў пошуках усё.
Зьнямоглы, але шчасьлівы
На ейны дол упаду.

### *Алена Зінкевіч*

* * *

Праклюнецца слоўка
ад матулькі...
Не баліць галоўка
толькі ў зязюлькі.
У чужым гняздечку
вырасце дзіцятка.
Не запомніць маткі,
не запомніць хаткі.
Матчынага слоўка
будзе век чурацца,
І чужою песняй
будзе захапляцца.
Каршуном над родным
будзе век цвяліцца.
Калі так вось жыці,
лепш бы не радзіцца...

**РАДЗІМЕ**

Непрадказальна ўсё. Душа, як пташка,
У нябёсы рвецца, бо баіцца клеткі,
І доля — сіратлівая манашка —
Палын зрывае, бо завялі кветкі.
Хто невядомасць, хто ўзлёт прарочыць,
Трасе планету снегапад і вецер.
Глядзяць пяшчотна праз стагоддзі вочы
Тваіх дзяцей, раскіданых па свеце.
І мова баязліва, як жабрачка,
Нясмела просіць: "Не пакіньце, дзеткі!"
Непрадказальна ўсё. Душа , як пташка,
У нябёсы рвецца з пут іржавай клеткі.

### *Змітро Бабровец*

**Дажыць да змяркання**

У снох ды вярозах я трызню –– шапчу
На матчынай роднай мове;
З ёю ў той казачны свет я лячу,
Што сам сабе быў замовіў.
Толькі ночай душа мае спачын.
Ранак — зноў шэрая багна...
Мне б дасягнуць, дапаўзці да начы;
Як жа за дзень я засмягнуў!
Уночы ж, адкінуўшы прэч гэты свет,
Злыя абдоймы будзёння,
І чыстай лугою я свой кладу след,
Дзе не бывае сутоння,
Дзе гістэрычна маньяк не крычыць,
Дзе не схіляюць галовы,
Дзе самавіта ды годна гучыць
Мая васільконая Мова.
Гэтаму ж свету яна — вострый нож,
Яна — за калючым дротам;
Ды той, хто калісці гуляў басанож
Ня ўспрыме дэмбельскіх ботаў.
Роднае слова, гаючы нектар,
Смагу прагоніць дазвання;
Днёвы страшэнны стрымаю ўдар
Ды дажыву да змяркання.

**Жураўлі.**

Жураўлі адлятаюць; стаю я самотны,
Ды да болю ўвачу я гляджу ім усьлед.
Жураўлі адлятаюць далёка, за сьвет;
Чую крык разьвітальны, тужліва — пяшчотны.

Крык аціх... Нешта зьмерла ў душы адышло;
Сьсірацелі узгоркі, лагчыны, курганы;
Зноў баляць мне старыя, адвечныя раны,
Жураўлі адляцелі... Пагасла сьвятло.

Зноўку сонца пячэ, зноў вясна на зямлі,
Толькі з сэрца ужо не сыходзіць адчай.
Дзе ж ты, сьветлы, сапраўдны дзяцінства мой чай,
Ды чаму ж вы зь вясёлых мясьцін, жураўлі,
Зноў кіруеце ў страшны чарнобыльскі рай,
І стаптаны, забіты, прададзены край.

### *Аляксандр Пазняк.*

* * *

О, бераг пясчаны — прытулак гадоў маладых!
О,возера-маці — калыска пачуццяў маіх!
О, хваля лятучая, ты, як і думка мая,
Узнятая ветрам ляціш на камені жыцця.

На беразе ціхім бярозка адзіна стаіць,
У небе высокім, над возерам, птушка ляціць;
Стаю ды гляджу на празрыстую роўнядзь вады
І чую далёкія гукі людской грамады...

* * *

Цёплы чэрвеньскі вечар зямлю
Паланіў сваёй мяккай пяшчотай,
Я адзін, сам з сабою, іду,
А ў душы — пустата, адзінота.

Не мілуе вачэй маіх свет,
Пазнікалі былыя жаданні.
Выпаў мне нешчаслівы білет,
Адваротнасць усім намаганням.

Рушу я невядома куды,
Не спяшаючыся, крок за крокам.
Перажытыя лічыць гады
Зверху неба сваім белым вокам...

### *Уладзімір Жайняк*

* * *

Яна выходзіць на вуліцы,
праспекты і плошчы сталіцы,
гарачым, як полымя, сэрцам
яна растапляе снег.
І цвёрды халодны лёд
пад ейным абцасам драбіцца.
Іх тысячы — вольныя хвалі
знішчаюць варожы след.

Як свежыя кроплі расы
на ранішнім ліпеньскім сонцы,
бліщчаць васільковыя вочы
на фоне Айчыны сцягоў
і сціснуўшы пальцы ў кулак,
супольна з іншымі крочыць
па плошчах, праспектах сталіцы
пад безліччу родных сцягоў.

Яна набліжае Вясну
ў краіну нашчадкаў Скарыны
змяняе людскія настроі
і верыць, што блізіцца дзень
жаданай, святой перамогі
для бела-чырвонай краіны.
Зялёным, густым аксамітам
засцелецца продкаў зямля.

**1944. Усходняе Палессе. Мроі жаўнера.**

Я знайду чырвоную ружу
пасярод змярцьвелых прастораў
і адчую, як стане дужым
маё сэрца, як знікнуць мроі,
прытулю некранутую свежасць —
шчэ расінкі блішчаць на пялёстках —
да грудзей і пачую, як штосці
мне вішнёвыя вусны шэпчуць...

А на заўтра з ранішнім сонцам
я паўду і скажу на растанне:
"Дачакайся свайго абаронцы,
зберажы ў сваім сэрцы каханне.
Я прыйду, ты павер, я вярнуся
з перамогай для нашай Айчыны,
і пад неба блакітным абрусам
ты народзіш дачку мне ці сына,
калі здрадзіш — клінок мой гостры
ад варожай крыві не астылы
вашы сэрцы гарачыя знойдзе
вечным домам вам будзе магіла"...

### *Аляксандр Голуб*

* * *

Я знайшоў тую песню,
Што ў сэрцы маім
Усе жылы нацягне дашчэнту,
У душы чорны смутак развее, як дым,
І надасць мне больш моцы, імпэту.

Я знайшоў тую думку,
Што ў маёй галаве
Нібы птушка, блукае па небе,
І цяпер, як у дзіўным, салодкім сне,
Я іду па свабоднай глебе.

Я знайшоў тую справу,
Што мне па плячы,
І натхнёна працую сабе;
Можа прыйдзецца ў рукі мне ўзяць два мячы —
Бараніць ад нападу яе.

Я знайшоў той струмень
Чыстай светлай вады,
Каб прагнаць прэч шалёную смагу;
Хутка б'ецца мой пульс, як той конь малады,
Не згубіць каб жыцця раўнавагу.

Дзіцячая старонка ў "Нашым слове"

# ВЯСНА

сакавік, красавік, май.

*І жаўруковы спеў,*
*І песні ручаінаў,*
*І квецень траў, —*
*Твае дары, вясна !*
*Спакон вякоў*
*Прыходзіла, красна,*
*Ты абуджаць*
*Да новых спраў Айчыну.*

Шаноўныя чытачы "Нашага слова". Гэтая дзіцячая старонка падрыхтавана выкладчыкамі і студэнтамі Лідскага педвучылішча. Рэдакцыя прапануе ўсім вучылішчам і універсітэтам далучыцца да гэтай цікавай і творчай працы. Мы будзем радыя друкаваць тэматычныя дзіцячыя старонкі, укладзеныя ў розных навучальных установах Беларусі.

### ВЯСНА

Ты, вясновы ветрык,
Прынясі мне вестку,
Што у цёплым лесе
Зацвілі пралескі,
Што прыйшла з далёку
Ў родны край вясна
І з сабою песні
Птушак прынясла.

*Аксана Цяслёнак*

### Заклічкі

Прыйдзі да нас, вясна !
З радасцю !
З вялікай да нас
Міласцю !

х-х-х

Ау, ау, аукаеш,
Вясну прыаукваеш,
Сакавік, сакавік —
Сонцу рады.
Красавік, красавік —
Адчыніць дзверы.
Май, май
Колькі хочаш гуляй !
Ау, ау, аукаеш ...

х-х-х

Вясна — красна !
Што прынесла ?
Цёплае сонейка,
Красна лецечка...
Вясна — красна !
На чым прыйшла?
На чым прыехала ?
На аўсяным каласочку,
На пшанічным піражочку ...

### Народная мудрасць.

Люты моцны мяцеліцай, а сакавік капеліцай.
Сакавік з вадой, красавік з травой, а май з кветкамі.
Дождж у маі хлеб падымае.
У маі два халады: калі чаромха цвіце і калі дуб распускаецца.

### Загадкі

Растае сняжок,
Ажывае лужок,
Дзень прыбывае,
Калі гэта бывае?

(Вясною).

х-х-х

Яна прыходзіць з ласкаю
І са сваёю казкаю
Чароўнай палачкай узмахне—
У лесе пралеска расцвіце.

(Вясна).

х-х-х

Да мамы — рэчкі бягу
І маўчаць не магу,
Я яе сын родны
І вясной народжаны.

(Ручаі).



### Прыкметы.

Вада з гары пацякла, вясну прынясла.
Убачыў грака — вясну сустракай.
Да першай навальніцы жабы не квакаюць.

### Прыказкі

Вясновы дождж лішнім не бывае.
Жораў ляціць высока, вясну бачыць далёка.
Жаўранкі, прыляціце, вясну — красну прынясіце.
Вясна багата кветкамі, а восень палеткамі.

---

Сустрэліся аднойчы Сакавік і Красавік.

— Як жывеш, Красавік? — пытаецца Сакавік. — Чаму не заходзіш у госці?

— Ды не ведаю, як да цябе дабрацца, — адказвае Красавік. — Час ужо ручаям звінець, а ў цябе яшчэ гурбы снегу ў лесе і дарогі замецены.

— Прыяджай да мяне, — кажа Сакавік, — я табе дапамагу дабрацца.

Паехаў Красавік на санях у госці да Сакавіка. Убачыў Сакавік, што Красавік на санях едзе, цёплым ветрам падзьмуў на дарогу, расталі гурбы ў лесе.

Ні праехаць, ні прайсці!

Вярнуўся Красавік назад. Сустрэліся Сакавік і Красавік на другі дзень.

— Чаму ты не заходзіш у госці? — пытаецца Сакавік. — Прыязджай, я цябе не пакрыўджу.

Зноў збіраецца Красавік у госці да Сакавіка. Паехаў да яго на возе. Убачыў Сакавік, што Красавік едзе на возе, падзьмуў халодны вецер — нанёс гурбы у лесе. Занесла снегам усе дарогі.

Ні праехаць, ні прайсці!

Вярнуўся Красавік засмучаны. Сустрэў ён другога свайго суседа — Мая.

— Чаго ты такі сумны? — пытаецца Май .

Расказаў яму Красавік, як Сакавік яго за нос водзіць: паклікаў у госці, а праехаць да сябе не даў. То падзьме халодным ветрам і занясе снегам дарогі, то падзьме цёплым ветрам і растопіць гурбы.

— Так я да яго не даехаў ні на санях, ні на возе, — сказаў Красавік.

— Эх ты, каму паверыў! — гаворыць Май Красавіку! Ён заўсёды такі хлус. А ў наступны раз, калі запросіць ён цябе ў госці, вазьмі і воз, і сані, і лодку прыхапі!

На другі год зноў сустрэліся Сакавік і Красавік. Паклікаў Сакавік Красавіка ў госці.

Паехаў Красавік да яго на возе.

А на воз паставіў сані. А ў сані паклаў лодку. Убачыў Сакавік , што Красавік едзе на возе, і падзьмуў халодным ветрам. Усе дарогі замяло снегам.

Сеў Красавік у сані. І паехаў далей. Убачыў Сакавік, што Красавік у санях, падзьмуў цёплым ветрам, узламаў лёд на рэках.

Перасеў Красавік у лодку і далей паплыў. Прыплыў Красавік да Сакавіка.

— Як ты да мяне дабраўся? — здзівіўся Сакавік.

— Ды па-рознаму, — адказвае Красавік, — і па вадзе, і на санях, і на лодцы.

— Хто ж цябе навучыў узяць і лодку, і сані, і воз? — пытаецца Сакавік. — Няўжо ты сам здагадаўся?

— Не, — гаворыць Красавік, — гэта мне Май падказаў. Яж не ведаў, што ты так хлусіш.

З таго часу Сакавік неўзлюбіў Мая, злуецца на яго: то лісточкі ноччу на дрэвах памарозіць, то градам кветкі ў садах паб'е...

Ды ўсё дарма! Маю Сакавік не памеха.



*Наталля Арсеннева*

### Вясна

З кожнай хмарачкі ў небе празрыстым,
З кожнай лужынкі светлай і чыстай
Усміхаецца ясна вясна!

Вабяць ласкай нябесныя далі,
Ручаі звон і грукат падנялі,
Гэта ж праўда падходзіць вясна!

Снег ляжыць яшчэ шэры і брудны
Пад узгоркам, а вецер марудны
Ужо шуміць у галінках кустоў.

Абсыхаюць у садзе дарожкі,
А маленькія яблынак, рожкі
Нібы рвуцца да сонца лучоў !

Сэрца б'ецца трывожна, няроўна,
Мне і сумна й вясёла-чароўна,
Вусны ціха шапочуць: "Вясна"...

Штосці новае просіцца, рвецца,
Ўсё сягоння зрабіла-б , здаецца,
Бо запраўды-ж падходзіць вясна !



### Вясновыя гульні

## "М А К"

Дзеці выбіраюць дзяўчынку ці хлопчыка макам, а самі ходзяць вакол яго карагодам, прытоптваюць і прамаўляюць (ці спяваюць пад музыку):

***А на гарэ мак, мак.***
***На даліне так, так.***
***А вы мае маковачкі —***
***Залатыя галовачкі.***
***— Ці паспеў, мак ?***

Мак адказвае:

***--Паехалі араць!***

Пасля гэтага дзеці зноў ідуць карагодам, запеўка паўтараецца з тым жа пытаннем некалькі разоў, а мак па чарзе імітуе дзеянні пасеву, росту, догляду і г.д. і адказвае: ***"Пасеялі!", "Паскародзілі!", "Узышоў!", "Папалолі", "Расцвітае", "Спее!".*** Як толькі мак скажа "Паспеў!", дзеці пачынаюць яго лавіць, а ён уцякае ў "поле" (пазначаецца месца, дзе лавіць забаронена). Хто яго зловіць становіцца макам. Пераможцам лічыцца той, хто прыгожа імітуе "дзеянні" і мала ловіцца.

### Першы купальшчык.

Мокры снег. Вада, як люстра,
Нават неба ў ёй відно.
Верабейчык шэры шустра
Прылятае пад акно.

Ён сезону не чакае —
Летняй цёплае пары,
А. шчаслівы, выбірае
Пляж ля лужы на двары.

Не баіцца ён марозу !
Акунецца — не дрыжыць,
Лёгка пырхне на бярозу
І чырыкае: "Жыў, жыў !"

*П.Прануза.*

х-х-х

Сонца свеціць ярчэй.
З - пад высокай сасны
Выбег шустры ручэй
Напамінак вясны.

Я рыдлёўку ўзяла,
Каб правесці равок,
А ён, бы зайчаня,
Па сцяжынцы скок-скок.

### Заснулі мяцелі.

Вясна з адлігаю ідзе.
Заснулі ўжо мяцелі.
І з горкі Аляксей
З'яджае на ... партфелі.

Чаму не коўзаешся ты
На лыжах ці на санках?
— А я спяшаюся: вясна
Растопіць снег да ранку.

*П.Прануза.*



## Пад кустом

КАЗКА

Стары куст не вельмі любіў, каб пад ім што-небудзь расло: хоць нават зусім маленькая траўка.

З самай вясны, калі толькі пупышкі на яго голых галінках пачынаюць набухаць, куст ужо паглядае ўніз. Пагладае, ці не вырасла там якая-небудзь травінка.

І пагэтаму, калі ён заўважыў пад сваёй ніжняй галінкай жоўценькую кветачку - гусіную цыбулю, — ён вельмі разлаваўся.

— Пра што ты думала, калі выбрала гэта месца! — крыкнуў ён кветачцы.

— А я не думала, — сказала кветачка.

Гэта была праўда. Яна проста радавалася, што жыве. Радавалася цяплу і сонейку, і небу, і вясёлым мушкам, якія сядалі на яе кветкі. Яна радавалася і раскрывала адзін за другім свае зорачкі-кветачкі.

А ў куста з'явіліся першыя лісточкі. І куст пагрозліва пагладаў уніз.

— Вось пачакай, гусіная цыбуля ! Хутка ты даведаешся, што такое цень! Але гусіная цыбуля не пужалася, па-ранейшаму радавалася, што навокал усё такое прыгожае. Першыя кветачкі ў яе адцвілі, і ў зялёных пушачках даспявала насенне.

А лісты на кусце раскрыліся. І пад кустом з'явіўся цёмны цень. І не было відаць неба. Ад яго засталіся толькі маленькія блакітныя плямкі.

Жоўтыя кветачкі гусінай цыбулі ўжо адцвілі, а насенне пачало даспяваць.

— Як табе падабаецца мой цень, гусіная цыбуля ? — крыкнуў куст.

— Ці добра табе зараз жывецца ?

— Я крыху змарылася, — сказала гусіная цыбуля, — і мне хочацца спаць.

— Хлусня ! — сказаў куст. — Ты выбілася з сіл і зараз памрэш. Мой цень згубіў усе травы, якія выраслі там, унізе.

Лісты на кусце ўсё раслі і раслі. А ўверсе над імі, на высокіх дрэвах, таксама з'явіліся лісточкі.

І цень пад кустом з кожным днём рабіўся ўсё чарней і чарней...

— Ці жывая ты яшчэ, гусіная цыбуля ? — крыкнуў куст. Але ніхто яму не адказаў.

— Нарэшце загінула, — сказаў куст.— І цудоўна! Ад майго ценю няма выратавання ні адной травінцы.

І да самай восені пад старым кустом не вырасла ні адна, нават кволая, травінка. Восенню лісты зваліліся. Галінкі куста зноў сталі голымі. І праз іх зноў было відаць і блакітнае неба, і сонца. Толькі не было каму глядзець і радавацца. Але прайшла восень і зіма. І зноў прыйшла вясна. Стары куст не паспеў прачнуцца, а ўнізе пад ім, нейкая дужая зялёная травінка выбілася вонкі.

Прабілася, раскрыла свае лісточкі і выпусціла жоўтую зорачку-кветачку.

— Гусіная цыбуля! — крыкнуў куст. — Ты ажыла, гусіная цыбуля ?

— Ды я і не памірала, — сказала кветачка.

І гэта было праўда. Яна не памірала. Яна проста была маленькай цыбулькай і спала пад зямлёй. Спала ўсё лета, і восень, і зіму, каб зноў вырасці вясёлай кветачкай вясной.

**Н. Паўлава**

Анатоль Астапенка

# БЕЛАРУСКАМОЎНАМУ НАБАЖЭНСТВУ БЫЦЬ!



Пасля славутага рэферэндуму аб статусе беларускай і расейскай моваў на Беларусі і ўвядзення расейскай мовы ў якасці дзяржаўнай, пачаўся імклівы працэс выцяснення беларускай мовы з ужытку практычна з усіх сфер жыцця. Усё што было зроблена па адраджэнню мовы за кароценькі прамежак часу дзеяння "Закона аб мовах" было згублена. З 1994 года ідзе працэс закрыцця беларускіх школ і класаў, перавод справаводства толькі на расейскую мову. Ворагі беларушчыны радасна паціраюць рукі.

Неяк само - сабой і згубіла актуальнасць пытанне аб беларусізацыі Царквы. Ні да таго стала, ці што ... Грамадскасць замаўчала і зноў перанесла сваю дзейнасць на кухонныя баталіі.

Не так па рабскі паслухмяна аднеслася да вынікаў рэферэндуму сама Царква. Канкрэтней — праваслаўная Царква, бо менавіта аб ёй я буду весці гаворку. Па-першае, на мой погляд, праваслаўнай Царкве на Беларусі, якая толькі пачала ўставаць на ногі пасля бальшавіцкага генацыду, абсалютна не заслужана дастаецца ад пэўных колаў нацыянальна свядомых, але не дасведчаных грамадзян. Беручы на сябе смеласць быць суддзямі ў такіх далікатных пытаннях як вера і Царква і безапеляцыйна сцвярджаючы, што Царква ўсяляк працівіцца беларускаму адраджэнню, што яна праводзіць палітыку Масквы, гэтыя людзі робяць тым самым вялікі грэх і пра гэта гаворыцца ў Святым Пісанні: "Не судзіце і не судзімы будзеце". Апраўданне гэтаму я бачу толькі ў тым, што магчыма многія проста не ведаюць таго, што шэраг святароў ужывае беларускую мову ў сваёй практыцы, вядзецца праца па перакладу Біблії, набажэнства і трэбаў на беларускую мову. У Жыровіцкай духоўнай семінарыі багаслоўе і шэраг іншых прадметаў вядзецца на беларускай мове.

У сваім артыкуле "На дадзенай Богам мове" ("Царкоўнае слова"("ЦС"), № 5, 1997 г.) я выказаў думку аб важнасці царкоўна-славянскай мовы ў праваслаўным богаслужэнні. Больш за тысячу гадоў служыцца літургія на мове Кірылы і Мефодзія — царкоўна-славянскай мове. І, зразумела, за гэты вялікі час богаслужэнне вырасла і выкрышталізавалася ў аб'ёмную, закончаную сістэму, якая спалучае і багаслоўе, і навуку, і паэзію і шмат чага іншага. Сотні тоўстых тамоў займае апісанне ўсяночнай, літургіі, часоў, шматлікіх акафістаў, канонаў і іншых відаў багаслужэння. Сотні кніг прысвечаны тлумачэнню Святога Пісання, апісанню Жыцій Святых і іх вучэнняў. І ўся гэтая праца рабілася, ды і робіцца цяпер на царкоўна-славянскай мове. Таму, зразумела, адначасна перайсці на багаслужэнне з царкоўна-славянскай мовы на іншую мову проста не магчыма. Не здарма ж у самой Расеі, дзе, відавочна, найлепшыя варункі для развіцця расейскай мовы, у царкоўны абіход яна так і не ўвайшла, і традыцыйна, як і ў большасці праваслаўных краін (акрамя Расіі і Беларусі — ў Балгарыі, Сербіі, Македоніі, Украіне, Польшчы і іншых), мова набажэнства — царкоўна-славянская. У свеце сказанага я думаю будзе ясна тое, што пераход да беларускай мовы ў набажэнстве на Беларусі будзе яшчэ больш складаным чымсці ў Расеі на расейскую.

Царкоўна-славянская мова — гэта не гістарычны архаізм, які даўно трэба памяняць на жывую мову народа. Гэта мова як ніякая іншая здольная служыць Царкве. Гэта — мова Царквы. Царкоўна-славянская мова нашчадак прац роўнаапостальных Кірыла і Мяфодзія, яна сведка першага тысячагоддзя хрысціянства, тых часоў, калі яно яшчэ не было падзелена на Усходнюю і Заходнюю плыні. За больш чым 1000 гадовае выкарыстоўванне царкоўна-славянскай мовы ў набажэнстве увесь працэс вельмі ўдасканаліўся, трапары, кандакі, ірмасы, сціхіры і іншыя формы царкоўнага спеўнага абіходу ўяўляюць сабою цэльную гарманічную форму і, фактычна, не падлягаюць перакладу на іншыя мовы, у тым ліку і на расейскую, і на беларускую. Хаця гісторыі вядомыя такія спробы. Так, у 1620 годзе ў Кіеве выйшла "Кніга аб веры" , дзе былі прыведзены пераклады шэрагу малітваў у тым ліку і "Отче наш". Аднак ні адна з гэтых спроб не дала плёну.

Разгляданую сітуацыю можна параўняць з матэматыкай, якая мае сваю мову — мову формул. Любую формулу, скажам інтэграл, можна патлумачыць, перапісаць яе звычайнай пісьмовай мовай. Але такая праца толькі б пагоршыла разуменне матэматычнага матэрыялу.

Ёсць яшчэ адзін аспект праблемы — рэлігійны. Гэта святасць царкоўнай мовы. Айцец Аляксандр Пачопка у артыкуле да зборніка "Праваслаўе ў славянскіх культурных традыцыях" піша: "Царкоўна-славянскія словы будучы святымі асвячаюць нашу родную мову. Яшчэ чарнарызец Храбр, гаворачы пра святога Кірыла, указваў, што славянскія пісьмёны больш святыя, бо стварыў іх святы муж. пакуль мы жывем малітвамі святых, не загінуць наша Вера, Айчына, мова Слова Божае, Дух Святы, кіруе нас да вечнага Царства Нябеснага". Дапоўню сказанае думкамі вядомых рэлігійных багасловаў. Вось што піша святар Канстанцін Буфееў: "Если мы начнём безжалостно насаждаць новые формы (расейскую мову ў набажэнства — А.А.), а вместе с тем и новый дух, то произойдёт страшная вещь. Церковь перестанет быть святой и благодатной, потеряет преемство Священного Писания, которое единственно и делает её непогрешимой" (Сети "обнавлённого православия", М.,1995).

Вялікае занчэнне царкоўнай мове надаваў знакаміты духоўны настаўнік нашай эпохі архімандрыд Сафроній (Сахараў). У яго кнізе "Видеть Бога как он есть" ёсць такія словы: "Если бы при совершении Литургии употребляли язык повседневности, то он порождал бы в душах и умах присутствующих реакции низшего плана — нашего физического существования". Сафроній вучыць нас, што "Слова Литургии и вообще молитв не суть только человеческие, но и данные Свыше. Церковный язык относится к сфере Божественного Бытия; он должен выражать Откровения Духа и им порождаемые умные видения".

Аднак ўсё гэта не азначае:, што мы павінны сядзець склаўшы рукі і нічога не рабіць у напрамку беларусізацыі Царквы. І ў згаданым маім артыкуле як раз і засяроджваецца ўвага на сур'ёзнасці працы над беларускамоўным багаслужэннем, а не яго адмаўленні, як палічылі некаторыя мае апаненты. Складанасць праблемы яшчэ і ў тым, што гісторыя не данесла да нас ні беларускай літургіі і ўсяночнай, ні беларускіх трэбаў. Мы ведаем толькі некалькі беларускіх калядных і вялікодных кантаў XYI- XYIII стагоддзяў, якія аднолькава былі папулярнымі на Беларусі як сярод праваслаўных, так і католікаў і уніятаў.

Часам, гаворачы аб беларускамоўных спевах у Царкве, спасылаюцца на унію (С.Марозава. "Моўная палітыка і практыка уніяцкай царквы ў Беларусі", Зб. "З гісторыі уніяцтва ў Беларусі", Мн.1996, стар.110). Але ні ў гэтым артыкуле ні ў якіх іншых няма аніводнага доказу гэтаму сцвярджэнню. Каб узяць, скажам, "Херувімскую" і пачаць спяваць яе па-беларуску... Не так гэта і проста, і вельмі не проста. У большасці ж крыніц сцвярджаецца, што набажэнства уніяты спраўлялі на царкоўна-славянскай мове. І толькі ў апошнія гады існавання уніі, перад раздзелам Рэчы Паспалітай набажэнства ў уніяцкай царкве значна адыходзіць ад традыцыйнага. Але не на карысць беларускай мовы, а польскай.

Такая няпростая сітуацыя з мовай беларускай праваслаўнай Царквы вымагае вельмі сур'ёзнага падыходу да перакладу царкоўных тэкстаў на беларускую мову. На гэтую працу патрэбен не адзін год. І яна даўно ўжо вядзецца. Шмат зроблена ў гэтым напрамку Беларускім праваслаўным брацтвам Трох Віленскіх Пакутнікаў, што існуе пры Свята-Петра-Паўлаўскім храме ў Менску. Пры брацтве ёсць выдавецтва, дзе рыхтуецца да друку розная рэлігійная літаратура на беларускай мове. Кожны год, пачынаючы з 1994 -га выдаюцца беларускія праваслаўныя календары. Выходзіць штомесячны бюлетэнь "Ортапрэс", міжнародны часопіс "Праваслаўе ва ўсім свеце" і іншая літаратура.

У сувязі са сказаным відавочна, што свецкія ўлады выглядаюць значна горш, чым царкоўныя. Яны прадстаўляюць краіну, быццам бы і незалежную ад Расеі, але ўпарта не жадаюць беларусізацыі, размаўляюць выключна па расейску, а ўсялякія там беларускамоўныя адзінкі выглядаюць смешнымі дон-кіхотамі на іх прагматычна — здрадніцкім прарасейскім фоне.

Пасля выхаду ў свет згаданага мной вышэй артыкула "На дадзенай Богам мове" не прымусіла сябе доўга чакаць і рэакцыя на яго. У № 12 газеты "ЦС" за той жа 1997 г. быў змешчаны "разгромны" артыкул нейкай І Кірылюк пад назвай "Действительно ли существует проблема языка в церкви?" І, хаця я ў сваім артыкуле пісаў аб складанасцях пераходу на беларускую мову ў царкве, гаварыў аб непадрыхтаванасці нашых прыхаджан адразу ўспрыняць Святое Пісанне ў роднай мове, І. Кірылюк абвінаваціла мяне ва ўсіх магчымых грахах і няпраўдах. Выказваючы, фактычна, прарасейскую, шавіністычную пазіцыю такіх адыёзных арганізацый як Славянскі Сабор "Белая Русь", ці Ліберальна-дэмакратычнай партыі Жырыноўскага, на працягу трох старонак газеты аўтарка шчыруе на сваёй нянавісці да ўсяго беларускага і асабіста да Астапенкі, называючы мяне "под овечей одеждой поборника "царкоўнай мовы". Па "канцэпцыі" спадарыні Кірылюк "... проблема языка, искуственно разжигаемая, существует не в реальной церковной жизни, а лишь на страницах прессы... Но нашлась заботливая рука, которая постаралась, чтобы грязная ложь о православии ... была перенесена состраниц "Свободы" и "ЛіМа" и вылита на головы читателей "ЦС"". Паборніца дзяржаўнага статуса двухмоўя на Беларусі , аўтарка піша: "Примером того, как мирно и беспроблемно уживаются белорусско- и русскоязычие в нашей Церкви является повседневная жизнь храмов соседей — Свято-Духова и Свято-Петро-Павловского соборов". Недасведчаны чытач можа падумаць, што і сапраўды адзін з гэтых храмаў беларускамоўны, а другі расейскамоўны. На жаль гэта зусім не так. У абодвух храмах набажэнства вядзецца аднолькава — на царкоўна-славянскай мове, а пропаведзі — на расейскай. Адно што: ў храме на Нямізе паступова ўводзяцца элементы служэння на роднай мове. Аб гэтым і будзе весціся гаворка ніжэй. Аб гэтым я пісаў таксама ў сваім артыкуле ў "ЦС". Але далей Ікірылюк адкрыта раскрывае сваю няпрыязь да ўсяго беларускага, да ўсяго нацыянальнага: "внутри церковной ограды есть только одна национальносць — христианин". Не дапускаючы нават думкі аб аўтакефаліі нашай царквы, яна піша: "Не является само по себе возбуждение подобной дискуссии (аб мове і аўтакефаліі — А.А.), которую провоцирует автор (г.зн. - я), используя "ЦС", средством разделения, выявления церковных людей, которые будут "кричать об автокефалии". І.Кірылюк магчыма не ведае, што беларуская мова была дзяржаўнай у нашай старажытнай беларускай дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім, на ёй выдавалася і Святое Пісанне — Біблія Ф.Скарыны. Хацелася б нагадаць у сувязі з гэтым словы з Дзеянняў Святых Апосталаў: "Ці ж не ўсе што гавораць Галілеяне? Як жа мы чуем ад іх кожны сваю мову? Мы ж родам з Тарфіі, Лідзіі..., але ўсе мы чуем, як яны гавораць нашымі мовамі пра вялікія цуды Божыя." (дзеі 2:7-11).

Пра неабходнасць выкарыстоўвання роднай мовы ў багаслужэнні гаварыў пад час літургіі ў царкве "Усіх беларускіх святых" 1 сакавіка 1992 г. мітрапаліт БАПЦ а. Мікалай. Ён казаў: "Наша беларуская мова — мова святая і ёй належыць святое месца ў Праваслаўнай Царкве.

І, нарэшце, апошняе, пра што хацелася б сказаць. Гэта — нядаўнія змены, якія адбыліся ў царкоўным богаслужэнні. З верасня 1997 года кожную сераду а 17-й гадзіне ў Свята-Петра-Паўлаўскім саборы на беларускай мове служаць малебен "За беларускі народ" і акафіст Трох Віленскіх Пакутнікаў. Працу гэтую ўзяў на сябе настаяцель храма пратаіярэй а. Георгій Латушка і хор брацтва Трох Віленскіх Пакутнікаў. Акрамя таго рыхтуецца пераклад літургіі на беларускую мову. Пераклад гэты з царкоўна-славянскай мовы робіцца вядомым дзеячом ў галіне беларусізацыі Царквы протаіярэем Свята-Духаўскага храма а. Сергіем Гардуном.

Ва ўсім гэтым застаецца дзіўным адзін факт. Не зразумела наступнае: дзе нашыя адраджэнцы? Дзе свядомыя праваслаўная інтэлігенцыя? Згаданы акафіст і малебен праходзяць у паўпустым храме. Прысутнічаюць на гэтай службе ўсё тыя ж бабкі, якія і заўсёды ў Царкве, ды некалькі маладых людзей.

Дык давайце пачынаць з другога канца, Давайце пачынаць з нас саміх. А то атрымліваецца, што размоў пра Царкву шмат, а вось каб прыйсці у храм, справіць службу, памаліцца па беларуску — дык ахвотнікаў мала. Навошта ж наогул ставіць пытанне аб беларускамоўным набажэнстве, калі вы, спадары свядомыя беларусы, яго ігнаруеце. Яно ж ёсць, карыстайцеся такой магчымасцю. А можа вам патрэбен яшчэ сподак з блакітным шлячком?

Хочацца сябе цешыць тым, што ўсё гэта ад недасведчанасці. Магчыма яшчэ не ўсе ведаюць аб беларускамоўным набажэнстве ў храме, што на Нямізе. Што ж прыходзьце, маліцеся за беларускі народ. І ратуй вас Госпадзе!

***Анатоль Астапенка, сябар ТБМ***

# Шлях да Гімназіі

Неяк ехаў Ф.Скарына з Полацка ў Вільню. Каля невялічкай вёскі напаткаўся яму жабрак. У Францішка нічога такога пры сабе не было, апроч колькіх асобнікаў нядаўна выдрукаванай Бібліі. І ён аддае адну з кніг просьбіту...

Не істотна, ці адбылося гэта насамрэч. Важна, што напачатку было Слова. Затым на месцы гэнай вёскі вырас Горад. Горад спарадзіў самарэфлексію: што ёсць наша роднае места, чым яно адметнае? Ці ёсць вызначальная ідэя, паводле якой развіваецца Горад у несупыннай плыні Часу?

Гэтыя пытанні я дапасоўваю да свайго роднага Глыбокага. Яны паўстаюць сёння ў кантэксце іншых: што ёсць нацыя, народ, Беларусь?. Мяне не цікавяць энцыклапедычныя азначэнні. Назаляе думка прачытаць горад як гістарычны тэкст лучна з ягоным падтэкстам — генетычным кодам места.

Старонняга назіральніка ўражвае, як у гэткай "глыбокай правінцыі" здолеў сягнуць у паднябессе шэдэўр еўрапейскага кшталту — Беразвецкая царква, а разам з ёю — кляштар. А для нас, тутэйшых, няма дзіва — мы ведаем пра духоўны спажытак нашага жабрака.

Але не адна царква прыдбала славу Беразвецкаму кляштару. Як падае прападобны А.Вераксін, галоўнай яго ўкрасай была кляштарная школа. Яе залажылі, мабыць, напрыканцы 16-га ст. Спярша гэта была пачатковая школа для дзяцей з навакольных вёсак. Пакрысе яна пашыралася і дасягнула памераў сярэдняе навучальнае ўстановы. Вучэльня мела 6 класаў. Справа ладзілася гэтак добра, што гадаванцы па заканчэнні школы паступалі ў Віленскі ўніверсітэт— найбуйнейшую навучальную ўстанову таго часу. У ім кляштар утрымліваў да 20 сваіх стыпендыятаў. Слава пра Беразвецкі кляштар ды ягоную школу сягала далёка за межы Дзісненскага павету, у які тады ўваходзіла Глыбокае. Там выхоўваліся юнакі з колішніх Віленскай, Менскай і Віцебскай губерній. Выкладчыкамі былі ў асноўным выпускнікі Віленскага ўніверсітэта. Гісторыя захавала імя рэктара школы — прэфекта Ф.Маеўскага, які меў ступень доктара філасофіі ды багаслоўя. Ён памёр у 1838 г., пасля чаго пачаўся заняпад вучэльні.

Але памкненні да навукі ніколі не згасалі ў нашым краі. Дух асветы фармаваў нашую ментальнасць. Таму і паходзяць з Глыбоччыны гэткія высакаадукаваныя людзі, як В.Ластоўскі, І.Буйніцкі, Я.Драздовіч, К.Душ-Душэўскі, М. Мінскі, П.Каруза, Бен-Іегуда, П.Сухі ды інш. Яны высока ўзнялі паходню Веды і годна пранеслі праз сваё жыццё. Менавіта прага да навукі была вызначальным чыннікам іхніх характараў. Сапраўды, ці не дзеля прасветы народа збіраў па вёсках Дзісненскага павету дыяменты роднае мовы Вацлаў Ластоўскі? Вынікам яго працы стаўся найцікавейшы твор — "Беларуска (крыўскі)-расейскі слоўнік", якому наканавана быць бестсэлерам у 21-м ст? Дарэчы, глыбачанін К.Душ-Душэўскі ўклаў разам з Властам яшчэ і першы беларускі слоўнік матэматычнай тэрміналогіі.

Цікава, што сёння ёсць на Глыбоччыне людзі, якія доўжаць справу Ластоўскага: шукаюць рэдкія словы па вёсках, клапоцяцца пра аўтэнтычнасць роднай мовы, пішуць вершы мовай славутага земляка, пільна ўглядаюцца ў гістарычную мінуўшчыну. Нашчадкі справы Скарыны, не зважаючы на неспрыяльныя ўмовы, прабуюць свае сілы і ў выдавецкай дзейнасці, вынікам чаго сталася незалежная газета "Вольнае Глыбокае".

Асветніцтвам быў апантаны і дзядзька Язэп. Калі адпраўляўся ў вандроўкі, то браў у торбу падручнікі для вясковых дзетак. Зрэшты, 2 гады ён выкладаў маляванне ў Глыбоцкай польскай гімназіі. Яшчэ чакае свайго даследніка дзіўнае зацікаўленне Драздовіча астраноміяй, што знайшло адбітак у некаторых карцінах мастака. Ці не гэтую жарсць да навукі пра зоры успадкаваў настаўнік сённяшняй Глыбоцкай СШ №3 Ігар Сасімовіч, які не толькі назірае з дзецьмі неба ў тэлескопы, але і мадэлюе рух зорак на кампутары?

Адметна, што памкненні да адукацыі існавалі ў нас і ў неспрыяльных варунках акупацыі. Так, за "польскім" часам дзеяла ў Глыбокім філія ТБШ, якая змагалася за права вучыць дзяцей на роднай мове. Цікава, што падчас нямецкай акупацыі Глыбоцкая акруга займала 2-е мейсца па колькасці школ на ўсёй Беларусі. Трэ было вучыцца і вайной, бо не дзіцячая справа — страляць. Па вайне адчыніліся ў горадзе тэхнікум і педагагічная вучэльня, якая рыхтавала досыць прафесійныя кадры для школ. Дарэчы, там утварылася суполка моладзі, якая не захацела вучыцца на чужой мове. Добра ўсім вядомая справа СБП.

...Тры цяперашнія перапоўненыя гарадскія школы доўжаць адвечную традыцыю, маюць трывалыя здабыткі ў навучанні. Дух асветы заўсёды лунаў над нашым краем. Па логіцы гісторыі мусіць быць у Глыбокім вышэйшая навучальная ўстанова. А перад апошнім крокам да яе павінна стаць Гімназія альбо Ліцэй, дзе напоўніцу ўвасобяцца нашыя асветніцкія памкненні. Мы годна прайшлі шлях да сваёй Alma Mater.

... Прыкладна на тым месцы, дзе Скарына аддаў жабраку Біблію, ля бальшака Полацк-Вільня, стаіць цяпер самалёт-помнік авіяканструктару П.Сухому. Ён скіраваны сваім корпусам у неба, да зор. Маем узляцець, землякі?

Янка Храпавіцкі,
г.Глыбокае.

## АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

### Мур. Муляр.

Пры разглядзе назваў будаўнічых прафесій неяк раптам заўважаеш іх беларускую асаблівасць і некаторую незразумеласць. Да прыкладу слова ***муляр***. Гэтым словам называецца не чалавек, які нешта малюе. Там ёсць словы ***маляр***. Гэтым словам называецца чалавек, які кладзе сцяну з цэглы. Ну, раней мог класці і з каменняў. Расейскае слова ***каменшчык*** у дадзеным выпадку, як быццам бы, пасуе болей. Нашы аматары, глыбокіх лінгвістычных даследванняў выводзяць гэтае слова ад польскага ***mularz*** *(А.М. Балыка. " Слоўнік іншамоўных слоў")*

Але шырокае распаўсюджванне гэтага слова, мноства прозвішчаў кшталту : ***Муляр, Мулярчык*** змушае засумнявацца у такой банальнай запазычаннасці г. І зусім нескладаным напружаннем памяці згадваем, што палетувіску слова ***муляр*** гучыць, як ***мураль (mural)***. Там гэтае слова чужароднае, запазычанае. Адкуль? На перыяд фармавання летувіскай мовы і жамойты і аўкштайты найбольш узаемадзейнічалі з намі. Таму слова магло быць запазычана толькі з Беларусі. Але гэта не так важна. Важна тое, што мы маем першапачатковае гучанне гэтага слова, якое ў працэссе змякчэння беларускай мовы крыху трансфармавалася. Першапачаткова слова ***муляр*** у беларускай мове гучала, як ***мураль***, чалавек, які ***муруе муры***. Вось зараз усё на сваім месцы.

Мураль муруе мур. Мур, Мураванка, мураваны.

Але цяпер мы павінны разглядзець ужо паходжанне слова ***мур***. Гняздо гэтага слова ўключае і назоўнікі, і дзеясловы, і прыметнікі, што выводзіць на думку пра яго глыбокую старажытнасць і самабытнасць. Слоўнікі гоняць нас да польскага ***mur, murowac***, нямецкага ***mauren***, лацінскага ***murus***. Шырокае распаўсюджанне гэтага слова у іншых мовах тым не менш не дае ніякіх падставаў гаварыць, што мы ў кагосці з іх гэтае слова запазычылі. Гэтае слова беларусы ведалі і ўжывалі з глыбокай даўніны і таму няма ў беларускай мове да гэтага слова нейкіх сінонімаў. У глыбокай старажытнасці яшчэ хетскія цары



**Лідскія муры.Даваенны здымак.**

насілі імёны Мурасіла ці Мурсіла. Нагадаем, што гэтыя цары жылі 2300 — 1200 гадоў да нашай эры. Мне не даступныя хетскія тэксты, а вось у санскрыце — старажытна-індыйскай мове мы знайходзім:

***murch*** — узмацняцца, станавіцца мацнейшым,
***murchana*** — які узмацняецца.

Такім чынам старажытныя арыі звязвалі мур ужо з умацаваннямі.

Заглянуўшы ў санскрыт мы знайходзім і перадумову пераходу слова ***мураль*** у ***муляр***. Справа ў тым, што санскрыцкае слова ***mura*** мае адно з гучанняў, як ***mula.***

***Mula*** абазначае аснову, грунт, асноўны, з самага пачатку, грунтоўна.

Таму можна зрабіць здагадку, што ў старажытнасці магло існаваць і два словы: ***муляр***, які засноўвае буддынак, пачынае яго і ***мураль***, які муруе. Але паколькі гэта звычайна быў адзін і той жа чалавек, то гэтыя словы вольна суіснавалі замяняючы адно другое.

Звярнуўшы ўвагу на гняздо словаў на ***мур*** нельга не заўважыць, што гэтыя словы ніяк не перасякаюцца з другім гняздом будаўнічых словаў на ***буд*** *(будаваць, будынак, будоўля* і г.д.) Чаму ? Адказ ізноў дае санскрыт.

***Budhna*** — глеба, грунт, глыбіня, корань.

**Жытло, якое будавалі,** — капалі у ямах, скалах, рабілі ў зямлі, з карэнняў, галінаў ***(будан),*** пазней, --з дрэва. **Жытло, якое муравалі** — гэта крок наперад. Гэта ўмацаванне ранейшага, гэта муры з каменю, пазней з цэглы. Абазваць у старажытнасці мур будынкам было як - бы нейкай абразай для мура. Таму ў нас з дрэва і іншых матэрыялаў будавалі, а з каменю ды цэглы муравалі.

Станіслаў Суднік.

## М. ШЧАКАЦІХІН — ДАСЛЕДЧЫК БЕЛАРУСКАГА ДОЙЛІДСТВА.

Значнае месца ў даследваннях М.Шчакаціхіна займае нацыянальная архітэктурная спадчына. Вучоны разглядае развіццё дойлідства ў агульным кантэксце мастацтва Беларусі, таму ён імкнецца выявіць тыя рысы і асаблівасці, якія разам з перакладамі ў іншых галінах мастацтва, здольныя паказаць шырокамаштабную і суцэльную карціну развіцця беларускай матэрыяльнай культуры. Асаблівасцю архітэктурнага раздзелу вынаходніцтваў М.Шчакаціхіна з'яўляецца тое, што ён вызначае і ставіць мноства пытанняў, прапануючы не канчатковыя фармулёўкі і высновы, а пракладваючы шляхі для далейшых пошукаў і ўкладанняў. Карыстаючыся вынікамі доследаў, якія па сутнасці з'яўляюцца першым, пачатковым этапам у сістэматычным вывучэнні беларускай архітэктурнай спадчыны, не заўсёды дасканалымі абмерамі помнікаў, выдатны беларускі даследчык ускрывае важныя і істотныя пласты, робіць каштоўныя навуковыя заўвагі, якімі і сёння карыстаюцца "вузкія спецыялісты" — даследчыкі розных галін старадаўняй беларускай культуры, а таксама рэстаўратары-практыкі.

Разглядаючы развіццё царкоўнай архітэктуры XI-XII ст.ст. на абшарах Беларусі, М.Шчакаціхін вельмі дакладна вызначыў складаны характар гэтай з'явы. Ён прыводзіць яскравую экспазіцыю першаўзораў, якія палеглі ў аснову смаленскай, полацка-віцебскай, гарадзенскай школ дойлідства, адзначае істотную розніцу паміж імі і прасочвае дынаміку развіцця і ступень уплыву адной будаўнічай традыцыі на другую. Больш таго, выявіўшы сувязь культуры Беларусі з Усходам яшчэ ў кургановую эпоху (УІ-УІІ стст.) , ён разглядвае развіццё гэтых зносінаў ў перыяд хрысціянізацыі і спасылаецца на помнікі Сірыі,Малой Азіі, Візантыі, Каўказа. Тым самым, аўтар ставіць дойлідства Беларусі тых часоў на ўзровень сусветнай з'явы.

Свае даследванні М.Шчакаціхін праводзіў у той час, калі яшчэ не была дасканала распрацавана тэрміналогія адносна беларускай архітэктуры XIУ - XУI стст. На гэта пытанне вучоны таксама звяртае вялікую ўвагу. Готыка — першы з заходне-еўрапейскіх стыляў, які ўспрыняты і распрацаваны беларускім дойлідствам. Адзначаючы той факт, што гэты стыль быў найбольш устойлівым на працягу некалькіх стагоддзяў, М.Шчакаціхін уводзіць у навуковы абарот азначэнне беларускай готыкі. Пры гэтым ён аддзяляе кола архітэктурных помнікаў "беларускай готыкі" ад "готыкі на тэрыторыі Беларусі (ласьне нямецкай)", якая існавала тут да XУI ст. Трэба таксама адзначыць, што ў тэрмін "беларуская готыка" М.Шчакаціхін укладае, па яго словах, " не толькі тэрытарыяльны, але таксама і фармальна-стылістычны сэнс".

Даследчык праводзіць капітальны мастацтвазнаўчы аналіз віленскіх касцёлаў, цэркваў у Сынкавічах, Мала-Мажэйкава, Супраслі. Разглядаючы "цытадэльна-царкоўнае будаўніцтва" у яго эвалюцыі, М.Шчакаціхін выяўляе генетычную сувязь гэтых помнікаў з еўрапейскай будаўнічай культурай. Адначасова з тым, её вызначае рысы, уласцівыя толькі беларускай абарончай архітэктуры.

Гаворачы аб своеасаблівасці дойлідства Беларусі, як у часы развіцця візантыйскіх традыцый, так і на этапе пераасэнсавання готыкі, М.Шчакаціхін не імкнецца вулучыць архітэктуру Беларусі ў адасобленую ў часе і прасторы з'яву. Пытанне ўплываў у мастацтве вельмі складанае. Звычайна актыўным, дзеючым бокам лічыцца той што аказвае ўплыў. Але ні аб якім уплыве нельга было б меркаваць, каб другі бок быў не здольны або не хацеў яго ўспрыняць. Калі ёсць зацікаўленнасць аднаго мастацтва ў досведзе другога, тады і пачынаецца самаасэнсаванне і развіццё на якасна іншым узроўні. Менавіта гэта і мае на ўвазе М.Шчакаціхін, калі зазначае, што "працэс афармлення чатырохвежавых готыцкіх цэркваў у Беларусі адбыўся цалкам дыялектычна, складаючы з супрацьлеглых асноў адзіную сынтэтычную форму, дзе гэтыя асновы грунтоўна былі перароблены і пагоджаны між сабой ў цалкам новай стылістычнай манеры".

***Лаўрэцкі Генадзь Аляксандравіч, ст.выкладчык кафедры тэорыі і гісторыі архітэктуры БДПА.***

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 30. 03. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 940 .
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.